*Руку на далейшае сяброўства, шаноўныя чытачы!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**№ 102 (4354)**

26 снежня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### Хутчэй на пошту!

Так, сёння апошні дзень, калі Вы яшчэ можаце падпісацца на "Народную Волю" на студзень–чэрвень 2019 года. У мінчан ёсць шанц зрабіць гэта і праз спецыялізаваныя пункты "Белсаюздруку".

БОЛЬШАЯ ПОЛИТИКА



## Разошлись – не разошлись?

О том, что переговоры в Москве будут непростыми, очень жесткими, прогнозировали аналитики как российские, так и белорусские. Слишком много накопилось нерешенных вопросов. Похоже, Кремль решил ультимативно поставить нас, белорусов, перед выбором: или соглашаетесь на радикальные предложения, или никаких экономических уступок мы вам не делаем.

В последние годы между Россией и Беларусью подписано множество договоров, но, к сожалению, далеко не все они выполняются.

Несколько дней назад А.Г. Лукашенко заявил: *«Что касается цен на нефть, ситуация изменилась три года назад. В течение этих трех лет из-за налогового маневра (в нефтяной сфере России. –* **Ред.***) мы потеряли почти 4,5 миллиарда долларов. Мы понимаем, что в ближайшие годы, примерно до 2024 года, понесем потерь еще на 10,5 миллиарда долларов».*

Жаль, что график сдачи газеты в печать не позволяет дождаться результатов переговоров в Москве между президентами В.В. Путиным и А.Г. Лукашенко с участием членов правительств двух стран.

«Народная Воля» вернется к этой архиважной теме в следующем номере.

ПРАГНОЗ

## Новы год – са снегам?

Калі спраўдзіцца папярэдні прагноз, то на гэты раз Беларусь будзе сустракаць Новы год са снегам. Напярэдадні захаваецца халаднаватае надвор'е, тэмпература -3…-5°С.

Ёсць верагоднасць таго, што днём 1 студзеня ртутны слупок будзе трымацца каля нуля.

І ўсё ж гэта доўгатэрміновы прагноз. Вядома ж, каму не хочацца, каб ён збыўся…

**Сцяпан КРЫВАЛЬ.**

АВАЛЬНАЯ ЗАЛА

## Замест крымінальнай адказнасці – адміністрацыйная

Палата прадстаўнікоў адмяніла сумна вядомы артыкул Крымінальнага кодэкса 193.1, які пагражаў зняволеннем за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый.

Як канстатуюць праваабаронцы, за час існавання гэтага артыкула да крымінальнай адказнасці ў Беларусі былі прыцягнуты 17 чалавек. Пяцёра з іх былі пакараны пазбаўленнем волі.

У жніўні 2006 года да розных тэрмінаў пазбаўлення волі былі асуджаны сябры незарэгістраванага грамадскага аб'яднання «Партнёрства» **Цімафей Дранчук, Мікола Астрэйка, Андрэй Шалайка, Эніра Браніцкая**.

Потым пад пераслед трапілі актывісты незарэгістраванага «Маладога фронту». У 2006 годзе **Эдуард Зелянкоў** са Жлобіна быў аштрафаваны, а **Зміцер Дашкевіч** асуджаны на паўтара года пазбаўлення волі.

Зараз замест крымінальнай адказнасці ўводзіцца адміністрацыйная – артыкул 23.88 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Цяпер за гэта пагражае штраф да 50 базавых велічынь.

*«Можна, безумоўна, павіншаваць усіх нас і праваабарончую супольнасць таксама, якая ўсе гэтыя гады настойвала і шмат чаго рабіла для адмены артыкула,* – распавёў racyja.com праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**. – *Але атрымліваецца, што, з аднаго боку, улады гэты артыкул адмяняюць, а з іншага – уводзяць адміністрацыйную адказнасць за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый. Мы расцэньваем гэта як недапушчальнае парушэнне свабоды асацыяцый. Нельга караць толькі за адсутнасць рэгістрацыі тыя арганізацыі, якія не прадстаўляюць ніякай пагрозы грамадству і не робяць нічога супрацьпраўнага».*

Каб набыць сілу закона, гэты законапраект павінен быць ухвалены яшчэ Саветам Рэспублікі і падпісаны кіраўніком дзяржавы. Потым яго павінны афіцыйна апублікаваць.

**Віктар ШПАК.**

БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Камсамольскае дэжавю

«Ніколі такога не было – і вось зноў». Гэты крылаты выраз колішняга расійскага прэм'ера Чарнамырдзіна надта ж пасуе да навіны пра стварэнне аргкамітэта дзеля святкавання стагоддзя ЛКСМБ, так бы мовіць, беларускага камсамола. Стоп, а што ж тады нядаўна, 29 кастрычніка, адзначалі з помпай? – спахопіцца чытач. Дзяржаўныя рупары трубілі акурат пра стагоддзе камсамола. Выстаўкі, канферэнцыі, вечарыны, канцэрты, урачыстыя сходы, казённая патэтыка…

Дык вось дакладваю: тое было стагоддзе ВЛКСМ, а дэ-факта – I з'езда РКСМ. Расшыфроўваю: расійскага камсамола.

Арганізатары святкавання той даты ў нас усяк стараліся замаскіраваць гэты слізкі момант, гэты прагін перад Масквой, цвердзілі пра стагоддзе камсамола, не ўдакладняючы якога. Цяпер шыла вылезла з меха. Стварыўшы новы аргкамітэт, улады фактычна прызналі, што адсвяткавалі дату з гісторыі іншай краіны. Бо першы Усебеларускі з'езд камсамола адбыўся ў верасні 1920 года.

У шырокай жа публікі – адчуванне дэжавю. Тым болей што ўзначаліў новы аргкамітэт той самы дзеяч, што ладзіў святкаванне юбілею ВЛКСМ, расійскага камсамола, – міністр адукацыі, былы кіраўнік Кампартыі Беларусі Ігар Карпенка. Розніца толькі ў тым, што цяпер адпаведнае распараджэнне падпісаў ужо іншы прэм'ер – Сяргей Румас. Кіраўнікі ўрада мяняюцца, аднак лабісты камсамольскіх юбілеяў, як бачым, нязменна дамагаюцца свайго.

Пра бюджэт святкавання ў распараджэнні не згадваецца. А было б цікава даведацца. Было б таксама цікава атрымаць ад ранейшага аргкамітэта ці ўрада справаздачу, колькі каштавала падаткаплацельшчыкам святкаванне стагоддзя ВЛКСМ, расійскага камсамола. У той час, калі, як выказаўся нядаўна на адной з нарад дзяржаўны лідар, «бабла няма».

Круціцца на языку яшчэ адно пытанне: а што, у нашай адукацыі зусім ужо няма праблем, калі міністр раз за разам шчыруе на ніве святкавання сумніўных юбілеяў? Увогуле ж у аргкамітэце абойма дзяржаўных функцыянераў. Ім таксама больш няма чым заняцца?

Звыш таго, паводле распараджэння Румаса, аргкамітэт можа прыцягваць да падрыхтоўкі і правядзення мерапрыемстваў кіраўнікоў ды адмыслоўцаў органаў дзяржаўнага кіравання, іншых арганізацый. Быццам і ў тых няма іншых клопатаў. Тут непасрэдных абавязкаў два вазы ды цэбар – і раптам званочак: будзьце ласкавы забяспечыць нам тое і тое ў гонар слаўнага камсамольскага юбілею. Можна ўявіць сабе, якая непарламенцкая лексіка будзе рвацца з вуснаў выканаўцаў.

У рэшце рэшт атрымліваецца, што камуністычная ідэалогія у нас дэ-факта накідаецца як дзяржаўная. Хоць Канстытуцыя такога не прадугледжвае. А раптам нехта з тых, каго запрагаюць у арганізацыю чарговага юбілею, не прымае камуністычных ідэй, мае іншыя палітычныя погляды ці проста ацэньвае гісторыю камсамола негатыўна? Чаму ён павінен скакаць пад дудку таварыша Карпенкі ды яго паплечнікаў?

З іншага боку, наколькі ведаю, да імпрэзаў стараюцца не прыцягваць тых былых камсамольскіх дзеячаў, што нейкім чынам паказалі крытычнае стаўленне да цяперашняй улады, а тым болей – сталі апазіцыянерамі. Усё ж мусіць быць у духу поўнай лаяльнасці, адзінадумства, як за савецкім часам.

Дарэчы, у арыгінале ўрадавага дакумента, па-руску, гаворка ідзе пра стагоддзе камсамола «Белоруссии». Нават у гэтым сэнсе нас цягнуць у «савок».

Аргкамітэт мусіць распрацаваць план мерапрыемстваў да 1 мая наступнага года. Не думаю, што таварышы блеснуць крэатывам. Найхутчэй, што збольшага перапішуць пункты папярэдняга плана, усё зноў пройдзе паводле панылага шаблону. І гэта толькі ўзмоцніць уражанне дэжавю.

Прычым розныя «Зарніцы», спартыўныя спаборніцтвы, турыстычныя злёты прывязваюцца да юбілею штучна – іх бы і так ладзілі. Маладзейшых прывучаюць проста ставіць птушачкі ў патрэбнай графе – у найлепшых традыцыях камсамольскай паказухі. А на ўроках грамадзянскасці «Слаўны шлях камсамола», пэўна ж, не распавядаюць школьнікам, што было на тым шляху багата і ганебнага – напрыклад, як грамілі цэрквы, скідалі званы.

Дарэчы, стагоддзе ВЛКСМ святкавалі фактычна ў гадавіну беларускай «ночы доўгіх нажоў»: у ноч на 30 кастрычніка 1937 года НКВД расстраляў 132 прадстаўнікоў нацыянальнай эліты. Чэкісты з камсамольскімі білетамі таксама перавыконвалі планы знішчэння «ворагаў народа». Але ж пра гэта ні гу-гу.

Наўрад ці прасунутая сённяшняя моладзь успрымае прымітыўныя лакіраваныя міфы – збольшага адбывае нумар на тых казённых уроках грамадзянскасці, употай гуляючы ў сваіх смартфонах. Ну і каму гэта трэба? Старым дзядзькам, што загуляліся ў «не расстанусь с комсомолом»?

Я не стаўлю на мэту дыскутаваць пра заслугі ды грахі камсамола, узважваць адно і другое на нейкіх шалях. Шалі тут у кожнага свае. Я толькі супраць накідання чарговага свята з выразна камуністычнай афарбоўкай праз дзяржаўныя органы і за казённы кошт.

Хочуць былыя функцыянеры ЛКСМБ адсвяткаваць любую ім дату – хай ва ўсіх сэнсах ладзяць банкет за свой кошт. Прыватным чынам.

ПАЛІТКУХНЯ

## Дэсант беларускіх палітыкаў высадзіўся ў Парыжы

*Праўда, не ў французскім, а ў беларускім.*

*«Парыж – гэта такая даволі дэпрэсіўная вёска ў Пастаўскім раёне Віцебскай вобласці, дзе шмат закінутых дамоў, а людзі, якіх мы там сустракалі, падчас не зусім добра трымаліся на нагах»,* – падзяліўся з «Народнай Воляй» сваімі ўражаннямі ад паездкі старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігар Барысаў.**

У Парыжы прадстаўнікі БСДП (Грамада) разам з першым намеснікам Беларускай партыі «Зялёныя» **Дзмітрыем Кучуком** з мясцовай Эйфелевай вежы агучылі 35 сацыяльных пытанняў да беларускай улады.

*«Палітычны парадак дня ў Беларусі сфарміраваны – гэта правядзенне свабодных і справядлівых выбараў па стандартах АБСЕ, а таксама ўнясенне змен у Канстытуцыю з мэтай абмежавання тэрмінаў паўнамоцтваў прэзідэнта і надання парламенту большай часткі паўнамоцтваў, а таксама рэфармаванне ўсіх дзяржаўных сфер, пачынаючы ад адукацыі і сканчваючы войскам. Сацыяльны ж парадак дня дагэтуль быў фонавым пытаннем, аднак менавіта сацыяльныя пытанні ўяўляюць найбольшы інтарэс для простых грамадзян»,* – гаворыць Ігар Барысаў.

У знак салідарнасці з пратэстным рухам «жоўтых камізэлек», які пачаў распаўсюджвацца па Еўропе і дамагаецца паляпшэння эканамічнага становішча найбольш уразлівых слаёў насельніцтва, лідары сацыял-дэмакратаў і «зялёных» у беларускім Парыжы таксама апранулі жоўтыя камізэлькі.

### Чаго патрабуюць?

Вось некаторыя з патрабаванняў, якія апазіцыйныя палітыкі выставілі ўладзе:

1.Павышэнне мінімальнага заробку на 100 еўра. Зараз ён 305 руб. (126 еўра).

2.Павышэнне мінімальнай пенсіі на 50%. Зараз яна 216 руб. (90 еўра).

3.Павышэнне мінімальнай стыпендыі на 100%. Зараз яна 87 руб. (36 еўра).

4.Вяртанне ў страхавы стаж перыяду знаходжання ў адпачынку па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да трох гадоў, вучобы ў ВНУ, догляду людзей з інваліднасцю.

5.Увядзенне 36-гадзіннага працоўнага тыдня.

6.Выдача 13-га заробку ўсім работнікам дзяржаўных і прыватных прадпрыемстваў.

7.Адмена дарожнага падатку.

8.Рэгістрацыя незалежных прафсаюзаў на прадпрыемствах.

9.Увядзенне абавязковай страхавой медыцыны за кошт працадаўцы.

10.Правядзенне пенсіённай рэформы і зніжэнне пенсіённага ўзросту для мужчын да 60 гадоў.

*«З кожным месяцам жыццё становіцца больш дарагім, нават кошты на звычайныя прадукты паступова падвышаюцца,* – падкрэслівае **Ігар Барысаў**. – *Часам падаецца, што гэта незаўважнае падвышэнне, але па выніку месяца разумееш, што грошай сышло больш, чым заўсёды».*

*«Напрыклад, у Беларусі выплата 13-й зарплаты цяпер не практыкуецца, а мы настойваем на тым, каб яе выплачвалі»,* – гаворыць намеснік старшыні Беларускай партыі «Зялёныя» **Дзмітрый Кучук**.

Дарэчы, Дзмітрый з'яўляецца дырэктарам смеццесартавальнай станцыі. І прызнаецца, што і на яго прадпрыемстве 13-га заробку сёння няма.

*«Цяпер у нас бізнес трохі ў крызісе, ёсць цяжкасці з выплатай заробкаў,* – гаворыць Дзмітрый. – *Мы не вельмі вытрымліваем канкурэнцыю і чакаем, калі зменяцца правілы гульні на рынку, спадзяёмся, што будуць створаны роўныя ўмовы як для прыватных прадпрыемстваў, якія займаюцца адходамі, так і для сістэмы ЖКГ. Цяпер нам цяжка канкурыраваць з дзяржаўнымі прадпрыемствамі. А ў наступным годзе, думаю, мы выплацім сваім работнікам 13-ы заробак».*

Дзмітрый Кучук лічыць, што з сацыяльным парадкам дня шчыльна пераплятаюцца экалагічныя пытанні.

*«Дастаткова ўзяць пытанне будаўніцтва АЭС. Акрамя таго, што сама па сабе атамная станцыя не з'яўляецца экалагічна чыстым аб'ектам, так улада ўжо анансавала, што электраэнергія для грамадзян будзе даражэй, чым для прамысловых прадпрыемстваў. Гэта яшчэ адзін аргумент, чаму будаўніцтва АЭС павінна быць спынена, – яна будзе біць па гаманцах простых беларусаў»,* – гаворыць Кучук.

Ініцыятары акцыі адзначаюць, што ў Францыі пратэстоўцы былі пачуты і мінімальны заробак ім быў падвышаны на 100 еўра.

*«Калі беларусы не будуць пасіўнічаць, то і ў нас атрымаецца ўздзейнічаць на ўладу і дамагчыся выканання сацыяльнага парадку дня,* – кажуць Ігар Барысаў і Дзмітрый Кучук. – *І калі беларусы праявяць салідарнасць, мы здолеем дамагчыся выканання нашых патрабаванняў».*

На першым этапе кампаніі ініцыятары заклікаюць далучыцца хаця б да акцыі салідарнасці ў інтэрнэце – фатаграфавацца ў жоўтых камізэльках і выстаўляць хэштэг *#хачуякупарыжы*, а таксама падпісаць у інтэрнэце петыцыю да Адміністрацыі прэзідэнта з пазначанымі вышэй патрабаваннямі.

**Марына КОКТЫШ.**




Ігар Барысаў і Дзмітрый Кучук у Парыжы.

### Ад рэдакцыі

Нарэшце грамадскасць пачула голас Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Адчуваецца, што новы яе кіраўнік сур'ёзна ўзяўся за арганізацыйную і палітычную работу.

Партыя вылучыла шмат патрабаванняў да ўлад. Але рэдакцыі, як і чытачам газеты, цікава ведаць, якія варыянты вырашэння праблем бачаць беларускія сацыял-дэмакраты. Таму ёсць канкрэтная прапанова: рыхтуйце, партыйцы, артыкулы з тлумачэннем, што неабходна зрабіць, каб кожны з 35 пунктаў стаў рэальнасцю. «Народная Воля» – да вашых паслуг.

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Стипендии президента назначены 94 молодым ученым

В числе стипендиатов 12 докторов и 55 кандидатов наук, 27 молодых ученых без степени. Это представители физико-математических, технических, химических, биологических, медицинских, аграрных, социальных и гуманитарных (в том числе юридических и психологических) наук, сообщает пресс-служба президента. Как известно, стипендии назначаются докторам наук в возрасте до 45 лет, кандидатам наук – до 35 лет и ученым без степени – до 30 лет.

Какой размер стипендии, пока не сообщается. Но, например, в уходящем 2018 году размер стипендии талантливым молодым ученым составлял 400 рублей ежемесячно.

**Анна ГОНЧАРИК.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,

профессор,
доктор экономических наук

# Устоим ли без подпорок?

Россия заблокировала переговоры о компенсации потерь Беларуси от налогового маневра. В спешном порядке проект республиканского бюджета был передан в парламент. В проекте, надо полагать, обошлись без учета российской компенсации. И правильно! Ждать у моря погоды, когда российское руководство снизойдет до продолжения темы, – себе дороже. И президент сказал, что потери существенны, но для экономики не критичны. Вице-премьер И.Ляшенко их уточнил: при цене на нефть 70 долларов за баррель ухудшение экономики наших НПЗ в 2019 году составит 240 млн долларов, и снижение поступлений доходов в бюджет – еще 143 миллиона. Естественно, власти стали успокаивать население, что, мол, даже и не почувствуете. Все свои социальные обязательства по бюджету правительство выполнит неукоснительно.

Если население не заволнуется, оно и впредь должно остаться чистым продавцом иностранной валюты, уравновешивая валютный рынок. В январе–ноябре физические лица на чистой основе продали 1 млрд 136,7 млн долларов. Но в сравнении с аналогичным периодом прошлого года это меньше на 36,8%. Если население станет больше беспокоиться из-за имперских поползновений России, оно начнет сберегать доллары и евро. А это может отразиться на курсе рубля. Вкупе со снижением валютных доходов бюджета от экспорта нефти и нефтепродуктов наступившая девальвация национальной денежной единицы потянет за собой инфляцию. Расчет бюджета-2019 велся, исходя из прироста ВВП на 2,1% (то есть ниже среднемировых темпов), инфляции – 5%, ставки рефинансирования – 10%, курса доллара 2,22 рубля. Таковы параметры без российской компенсации.

Как известно, налоговый маневр в России закончится к 2025 году. Общие накопительные потери от него для Беларуси насчитали до 10 млрд долларов. Можно привести и другие пугающие цифры. Внешний госдолг в расширенном определении (с учетом правительственных гарантий) на начало года был 25 млрд долларов, или 45,9% ВВП. Внутренний госдолг, который на три четверти в валюте, составлял 9,2 млрд рублей и увеличился с начала года на 228 млн долларов. В итоге все государственные долги на 1 октября 2018 года составили 50% ВВП, то есть они уже за чертой экономической безопасности государства, утвержденной президентом как 45% ВВП. В 2019 году надо погасить госдолгов на сумму не менее 4 млрд долларов, что составит 20% совокупных расходов органов госуправления.

В четвертом квартале белорусская экономика с затухающими темпами роста ВВП близка к сползанию в стагнацию. Мировые цены на нефть снизились до 55 долларов за баррель, и США делают все, чтобы они были еще ниже. Замминистра финансов заявил, что к концу 2019 года госдолг Беларуси достигнет 55,1 млрд долларов. Может, это и потому, что по консервативному сценарию Нацбанка к концу следующего года белорусский рубль может обесцениться к доллару до 2,27 единицы за «зеленый». Во всяком случае глава Нацбанка без лишнего оптимизма заявил, что изменение макроэкономических условий из-за реализации в России налогового маневра – «это вызов, на который всем гражданам Беларуси надо ответить достойно».

Реакция в Беларуси на ультиматум России (мол, если хотите энергетических преференций, входите в состав России) более чем бурная. А после высказывания известного российского имперца В.Жириновского, что чуть ли не все белорусы мечтают уйти под крыло российского двуглавого орла, вызвала в стране шквал возмущений. Проведенные блиц-опросы показали, что менее четверти наших соотечественников желают жить в «коммунальной квартире». Не зря же экс-глава Нацбанка известный политик С.Богданкевич назвал сегодняшнюю Россию с ее «нерукопожатным» в мире руководством дикой.

Ясно одно: 2019 год будет для белорусов очень нелегким. Хотя нам, несмотря ни на что, обещают довести зарплату бюджетников до 80% от средней по стране, на 14% повысить пенсии и т.д., ближайшее будущее белорусов остается тревожным. Конфликт с Россией вряд ли разрешится до Нового года. С ней тягаться сложно. Но еще сложнее выстраивать высокоэффективную, конкурентную экономику, способную работать без российских подпорок. Первое, что сделали страны – друзья СССР по соцлагерю (Польша, Чехия, Словакия) и бывшие прибалтийские республики, это развернули свои рынки на Запад и дистанцировались от России. Вспомним краткую формулу, высказанную когда-то белорусским министром иностранных дел В.Макеем: треть экспорта – на Россию, треть – в страны ЕС и треть – в страны «дальней дуги». Здесь, как говорится, и конь не валялся, она так и остается не то что нереализованной – к ней ни на сантиметр не приблизились. Так и хочется сказать свежему белорусскому правительству: а вам слабо?

ТРЕВОЖНАЯ ТЕМА

*На минувшей неделе интернет бурлил: российский политик и экономист, в прошлом первый заместитель директора Рабочего центра экономических реформ при правительстве России, советник президента России* ***Андрей Илларионов*** *в своем блоге написал, что Владимир Путин неслучайно сделал оговорку по поводу численности российского населения. Илларионов убежден, что Кремль начал поглощение Беларуси.*

*Учитывая остроту момента и то, что весь этот политический скандал напрямую касается Беларуси, считаем целесообразным ознакомить читателей «Народной Воли» со статьей Андрея Илларионова. Реакция – за властями и общественностью нашей страны.*

Андрей ИЛЛАРИОНОВ

# Кремль начал поглощение Беларуси

Это самое главное, о чем В.Путин заявил на вчерашней пресс-конференции.

Важнейшей фразой вчерашнего шоу стала вот эта:

«**В.Путин:** Совсем ещё недавно думали, что и страны такой больше нет, а, оказывается, есть, и надо с ней считаться. А 160 миллионов у нас проживает, это же не просто хотелки какие-то руководства страны, это интересы народа, которые мы защищаем. Защищаем аккуратно, кстати говоря, без всякого хамства, спокойно, сдержанно. Но делаем свое дело и будем двигаться дальше в этом направлении».

По данным ФСС, население Российской Федерации (вместе с Крымом и Севастополем) на 1 ноября 2018 г. составляет 146,8 млн. чел.

Откуда же взялись 160 млн.?

Может быть, Путин банально оговорился?

Хотя вообще-то он неплохо помнит нужные ему цифры.

Одиннадцать месяцев тому назад, 30 января 2018 г., на встрече с доверенными лицами он называл другую цифру:

*«И, без всяких сомнений, это работа, которую не может сделать один человек по определению. У нас 146 миллионов граждан! Это серьезная, командная, большая работа».*

Два месяца назад, 18 октября 2018 г., в ходе заседания клуба «Валдай» также была названа цифра в 146 млн.:

На самой пресс-конференции Путин также назвал цифру в 146 млн.:

*«На минуточку, у нас 146 миллионов граждан в России, а в странах НАТО – 600 миллионов, и Вы считаете, что наша цель – управлять миром?»*

Значит, Путин не оговорился и не ошибся.

Но в одном и том же выступлении он назвал две разные цифры численности населения. Следовательно, произнося их, он вкладывал в них разный смысл.

Какой же?

Во втором случае он назвал численность населения России – у нас 146 миллионов граждан в России.

А в первом случае он использовал цифру в 160 миллионов, которую характеризовал так – это те, кто:

- у нас проживает,
- народ,



- имеет интересы, которые мы защищаем. Защищаем аккуратно, без всякого хамства, спокойно, сдержанно.

Таким образом, Путин провел четкую границу между теми, кто является гражданами России, а также теми, кто может являться, а может и не являться гражданами России, но кто:

- является частью нашего народа,
- живет у нас,
- имеет интересы, которые мы защищаем.

Разница в 13-14 миллионов человек – между численностью нашего народа и численностью граждан России – объясняется, как нетрудно догадаться, суммарной численностью населения Беларуси, «ДНР», «ЛНР», Приднестровья и, очевидно, Южной Осетии.

Беларусь – 9,5 млн.чел.
«ДНР» – 2,3 млн.чел.
«ЛНР» – 1,5 млн.чел.
Приднестровье – 0,5 млн.чел.
Южная Осетия – 0,05 млн.чел.

Итого численность нашего народа, живущего не на территории России, – 13,8 млн.чел.

Россия (с Крымом и Севастополем) – 146,8 млн.чел.

Таким образом, вся численность нашего народа, живущего у нас (то есть и на территории России и за ее пределами, но у нас), интересы которого мы защищаем, – 160,6 млн.чел.

Юридической основой, позволившей Путину заговорить о нашем народе, проживающем у нас, интересы которого мы защищаем, стало, очевидно, утверждение за день до этого самим Путиным Военной доктрины Союзного государства (белорусский кабинет утвердил ее еще 13 ноября).

Текста новой Военной доктрины Союзного государства в открытом доступе нет.

Но то, что именно и как именно Путин позволил себе заявить о нашем народе численностью в 160 млн.чел., живущего, по феноменальной путинской формулировке, у нас (в том числе формально за государственными границами России), интересы которого, определяемые и интерпретируемые теперь, естественно, самим Путиным, нами защищаются, позволяют сделать обоснованные предположения о легальном содержании утвержденного документа.

Иными словами, с 19 декабря 2018 г., в частности:

- белорусский народ стал частью нашего народа,
- белорусский народ живет у нас,
- интересы белорусского народа определяются Путиным и защищаются, если надо, то и военным путем (доктрина-то военная).

Очевидно, это важнейшее достижение Путина последнего времени, позволяющее ему в ситуации, какую он сочтет для себя благоприятной, использовать инструменты, предусмотренные в указанной Военной доктрине, для осуществления своих собственных целей, выдаваемых теперь за интересы нашего 160-миллионного народа.

Например, так, как использовался инструмент российских миротворческих сил в Южной Осетии в 2008 г.

Или как инструмент российской военной базы в Севастополе в 2014 г.

Или как инструмент нашего народа, интересы которого мы защищаем, – в Донбассе с 2014 г.

Теперь появился новый инструмент – инструмент Военной доктрины Союзного государства – для Беларуси.

В течение последнего месяца немало говорилось о совершенном Кремлем 15 ноября 2018 г. акте аннексии Керченского пролива, реакции на который со стороны официальных органов ни одного государства, включая и Украину, до сих пор не было.

Слова Путина 20 декабря 2018 г. – это недвусмысленное объявление о начале аннексии (поглощения) Беларуси.

О своих дальнейших действиях Путин также заявил вчера, нисколько не стесняясь:

Делаем своё дело и будем двигаться дальше в этом направлении.

P.S.

Так В.Путин отметил День чекиста в 2018 г.

В 2015 г. День Сил специальных операций был отмечен убийством Б.Немцова.

А день рождения в 2006 г. – убийством А.Политковской.

### От редакции

*Так Андрей Илларионов прокомментировал пассажи В.Путина, произнесенные на пресс-конференции, которая состоялась в Москве 20 декабря.*

*Текст даем в оригинальном виде.*

ЛІЧБА ДНЯ

## 1,8 мільёна рублёў

Такая сума штрафаў за безбілетны праезд пералічана ў бюджэт Мінска за 11 месяцаў 2018 года. З пачатку года кантралёры выявілі больш за 137 тысяч безбілетных пасажыраў.

Статыстыку падчас «Прамой лініі» агучыў генеральны дырэктар ГП «Мінсктранс» Лявонцій Папянок, паведаміла агенцтва «Мінск-Навіны».

Дарэчы, у 2017 годзе за такі ж перыяд супрацоўнікі кантрольна-рэвізорскай службы Мінска аштрафавалі каля 95 тысяч «зайцоў», у бюджэт горада за 11 месяцаў было пералічана больш за 911 тысяч рублёў.

САЛІДАРНАСЦЬ

## Гродзенскім школьнікам ад фінскага фонду

*Стыпендыю памерам 1000 еўра атрымалі школьнікі з Гродзенскай вобласці, якія паказваюць добрыя вынікі ў вобласці навукі і мастацтва.*

У намінацыі «Навука» фонд OLVI абраў **Арцёма Здановіча**, вучня Гродзенскай гімназіі №1 імя Я.Карскага. Арцём мае сертыфікат удзельніка IV Рэспубліканскай алімпіяды студэнтаў і школьнікаў па крыптаграфіі і абароне інфармацыі JUNIOR. CRYPT, удзельнік і дыпламант міжнароднных анлайн-алімпіяд па матэматыцы, фізіцы і інфарматыцы.

**Насця Гуранкова** займаецца ў Гродзенскай спецыяльнай агульнаадукацыйнай школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі зроку, іграе на фартэпіяна, валодае кампазітарскімі здольнасцямі. З'яўляецца лаўрэатам абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў юных піяністаў.

**Георгій Рыбак** займаецца ў алімпіяднай школе па геаграфіі. Ён неаднаразовы ўдзельнік рэспубліканскіх алімпіяд, паглыблена вывучае рускую мову, матэматыку і англійскую мову.

Фінскі фонд OLVI прадстаўляе ў Беларусі кампанія «Лідскае піва». Фонд уручае стыпендыі таленавітым дзецям у Беларусі з 2011 года. Ён быў заснаваны ў Фінляндыі ў 1955 годзе і з таго часу аказвае падтрымку таленавітай моладзі, а таксама падтрымлівае здольных маладых людзей з абмежаванымі магчымасцямі.

**Аляксей МІХАЛЕВІЧ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Чем сейчас занимается Станислав Князев?

*Некоторое время назад читал о том, что сменился ректор МИТСО, а генерал-майор Станислав Князев написал заявление об уходе с этого поста. А чем он сейчас занимается? На пенсии или еще работает?*

**Игорь ИВАНОВ, Минск.**

Станислав Князев по-прежнему работает в МИТСО. Он теперь заведует кафедрой профсоюзной работы и социально-гуманитарных дисциплин. Об уходе Князева действительно было много разговоров, но он сам говорит, что не стоит искать никакой скандальной подоплеки.

*– Мне 70 лет, и я написал заявление – ничего удивительного в моем уходе нет,* – говорит Князев.

**– Несколько лет назад был скандал, когда в прессу попали совершенно нескромные цифры о немыслимых зарплатах в МИТСО, в том числе сообщалось и о зарботках ректора. Чем закончилась эта история? Вы, кстати, никак не комментировали…**

*– Это все наветы. По этому поводу было много проверок, которые не подтвердили ничего, не было никаких нарушений. А проверки были достаточно серьезные…*

Кстати, в начале декабря по решению президиума совета Федерации профсоюзов Беларуси доктор юридических наук, профессор Станислав Князев награжден почетной грамотой и золотым нагрудным знаком «За многолетний плодотворный труд, высокий профессионализм, значительный личный вклад в развитие белорусской науки и реализацию основных направлений государственной политики».

**Марина КОКТЫШ.**

КАМПЕТЭНТНА

Святлана КУДЗЕЛКА:

## «У наступным годзе цэны на кватэры могуць крыху знізіцца»

*Як змяніліся цэны на нерухомасць у гэтым годзе? І што чакае тых, хто марыць вырашыць кватэрнае пытанне ў годзе наступным?*

*Пра гэта карэспандэнт «Народнай Волі» пагутарыў з намеснікам дырэктара па продажах на другасным рынку нерухомасці «Твая сталіца».*

– Гэта быў дастаткова стабільны год на рынку жылля, – кажа **Святлана КУДЗЕЛКА.** – Цана квадратнага метра за год падняўся прыкладна на 10 працэнтаў, але актыўнасць пакупнікоў падтрымлівалі не вельмі дарагія крэдыты, якія былі дастаткова папулярныя сярод насельніцтва. Калі б не гэты фактар, то, магчыма, сітуацыя была б кардынальна іншая.

**– Пад якія працэнты давалі крэдыты на пакупку нерухомасці?**

– Напрыканцы года банкі паднялі працэнтныя стаўкі, а ўвогуле яны не перавышалі 14–15 працэнтаў гадавых.

**– Калі казаць пра аб'ёмы продажу кватэр…**

– Аб'ём здзелак захаваўся традыцыйным для сталіцы – 1000–1100 кватэр у месяц. І ў гэтым плане таксама вялікіх змен не назіралася, бо прыкладна такія ж продажы былі зафіксаваны і ў папярэдні год.

**– Якая была сярэдняя цана на жыллё ў Мінску ў гэтым годзе?**

– Калі казаць пра жыллё са стандартнымі спажывецкімі якасцямі, то такія кватэры каштавалі прыкладна 1115–1140 долараў за квадратны метр, хаця даходзіла і да 1170 долараў за квадратны метр. Але ў гэтым месяцы попыт знізіўся, і адпаведна зменшыліся цэны на нерухомасць.

Увогуле, самая нізкая цана на жыллё была на пачатку года. Яна расла з кожным месяцам, але вельмі паступова. Не было ніякіх рэзкіх скачкоў.

**– Адным словам, ажыятажу на рынку нерухомасці не было…**

– Попыт быў, але дастаткова спакойны, бо падтрымліваўся крэдытамі банкаў.

**– А ці ўплываюць на кошт квадратнага метра аб'ёмы будаўніцтва жылля ў сталіцы?**

– Безумоўна. Праўда, зараз новабудоўляў у Мінску становіцца ўсё менш, больш жыллё будуецца на ўскраінах горада. І там цана на кватэры не вельмі высокая – у межах 1000 долараў за квадратны метр.

Трэба разумець таксама: калі менш становіцца новабудоўляў, то больш запатрабаваным будзе жыллё на другасным рынку.

**– Якія прагнозы на 2019 год?**

– Зразумела, што рынак нерухомасці найпрост залежыць ад эканомікі краіны. І калі там нейкіх кардынальных пераструсак не адбудзецца, то нашы эксперты прагназуюць досыць стабільную сітуацыю з коштамі на жыллё ў наступным годзе. Могуць быць ваганні ў межах 1–2 працэнты ў месяц, але гэта пры ўмове, што эканамічная сітуацыя захаваецца такая ж, як і ў гэтым годзе.

На мой погляд, пры такім раскладзе ў 2019 годзе цэны на кватэры наогул крыху знізіцца – да 1050 долараў за квадратны метр. Банкі паднялі крэдытныя стаўкі, і гэты фактар можа паўплываць на попыт і цэнаўтварэнне. Да таго ж тыя, хто хацеў скарыстаць таннымі крэдытнымі рэсурсамі, ужо зрабілі гэта. Будзе меншы попыт – знізіцца і цэны.

**Алесь СІВЫ.**

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## За папяровыя караблікі 490 рублёў штрафу

Напярэдадні святочных выхадных – 22 снежня – суд Цэнтральнага раёна Мінска вынес рашэнне па адміністрацыйных справах удзельнікаў акцыі з папяровымі караблікамі каля Расійскай амбасады, якая прайшла 26 лістапада. Тады да будынка дыпмісіі прыйшло каля дзесяці чалавек, пераважна з маладзёжнага крыла Партыі БНФ, якія ўсклалі на парапет агароджы папяровыя караблікі, афарбаваныя ў колеры ўкраінскага сцяга.

Такім чынам актывісты выказалі салідарнасць з украінскімі маракамі, абстралянымі і захопленымі ў палон у Азоўскім моры.

За акцыяй назіралі супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, якія вялі аператыўную відэаздымку.

Пазней некалькі ўдзельнікаў атрымалі па поште пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Сярод іх **Яўген Батура**, **Святлана Каваленка** і журналістка газеты «Новы Час» **Дзіяна Серадзюк**, якая асвятляла падзею.

Суддзя **Іван Касцян** усе тры справы разгледаў разам. Нягледзячы на ўсе аргументы з боку журналісткі Дзіяны Серадзюк і рэдакцыі «Новага Часу», суддзя палічыў, што Серадзюк удзельнічала ў акцыі. Яна, а таксама Батура і Каваленка пастановай суда аштрафаваны на 20 базавых велічынь кожны. Зараз гэта складае 490 рублёў.



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Штрафная площадка

– Какую судьбу готовят этому рыжему! – с восхищением сказала Анна Ахматова, узнав о приговоре суда, вынесенном будущему нобелевскому лауреату Иосифу Бродскому, осужденному за тунеядство.

Действительно! Какая судьба…

Не известно, что было бы с Бродским, если бы не тот приговор. Скорее всего, он все равно стал бы поэтом, а вот насчет «нобелевки» – не знаю. Поэзия вообще трудно пробивается к премиям такого ранга, труднее, чем проза, так что сопутствующее обстоятельство в виде приговора советского суда некоторую роль могло и сыграть. Но дело сейчас не в этом.

Дело в штрафе новоизбранному руководителю зарегистрированного в Чехии «Маладога фронту» Денису Урбановичу. Господину Урбановичу врубили штраф в размере 980 белорусских рублей (сорок базовых величин) за то, что вечером 29 октября 2018 года во время акции «Ноч расстраляных паэтаў» он «демонстративно ударял в колокол». Напомню: ударом в колокол отмечался на той акции каждый загубленный во время сталинских репрессий литератор, живший в Беларуси.

Я не знаю, кто именно и почему решил таким образом начать подготовку «судьбы» Дениса Урбановича. Но он может гордиться. Круче было бы разве что получить приговор за «демонстративное осуществление молитвы» на том же месте и в тот же час. К тому же, поскольку молитва эта не была бы санкционирована церковными властями, приговорить могли за «демонстративное и циничное осуществление молитвы». Мол, без санкции даже молиться нельзя – разве что уж если вы совсем циник…

По случайности ли, или же по чьему-либо умыслу приговор Урбановичу был вынесен буквально накануне суда над другой жительницей Минска – Светланой Коваленко. Госпожа Коваленко установила (якобы) перед посольством России в Минске бумажный кораблик, протестуя против захвата реальных украинских корабликов в Азовском море российскими Вооруженными силами. Судя по всему, госпожа Коваленко, как в известной песне, мечтала о морях и кораллах и поесть хотела суп черепаший, а тут вот такой облом получился. А если случится так, что кораблик – опять-таки в соответствии с песней – окажется из газеты вчерашней, то ситуация вполне может усугубиться: авторские колонки Александра Класковского, Светланы Калинкиной да и автора этих строк вполне могут трактоваться как экстремистская литература, так что госпоже Коваленко «пришьют» еще и это.

Да, ситуация вполне бредовая – что в случае с колокольным звоном, что в случае с корабликом у стен российского посольства. Но мы и через более бредовые ситуации проходили. У нас однорукого судили за то, что он рукоплескал, а глухонемого – за выкрикивание антиправительственного лозунга «Жыве Беларусь!». Так что если меня осудят, например, за то, что я злонамеренно и с особым цинизмом читал вслух стихи поэта Осипа Мандельштама на том же мероприятии, на котором Денис Урбанович бил в колокол, меня это никак не удивит: наша милиция, как известно, состоит из сплошных театралов, но не настолько, чтобы возлюбить автора стихов о кремлевском горце. Тем паче что наша белорусская Фемида успешно превратилась в девушку по вызову (да простят меня феминистки, но задолго до меня мальчиками по вызову кто-то из коллег-журналистов назвал белорусский спецназ), ей предложили выписать штраф, что она и делает, мало заботясь даже о правдоподобности аргументации.

Вместе с тем все это напоминает даже не гражданскую казнь и не казнь реальную (в конце концов штраф – не пуля, в голове его не унесешь на тот свет), а какое-то поведение гоголевской унтер-офицерской вдовы, которая с систематическим упорством сама себя же и порет. Репутационные издержки от подобных приговоров достаточно дорого обходятся не столько судье, вынесшему (вынесшей) конкретный приговор, сколько всей судейской корпорации: пятна на мантии Фемиды накапливаются просто с удивительной скоростью, заставляя досужих граждан утрачивать последние капли доверия к институту судейства. Это как если бы в футболе судья сам не только вошел в штрафную площадку, но и ударил бы ногой по мячу, направив его непосредственно в ворота одной из команд. В довершение всего в воротах отсутствовал бы вратарь, да и матч закончился, но кто-то, уговоривший судью сделать этот пас, потребовал бы от организаторов матча засчитать гол. Ну, и что после этого – кому штрафную карточку показывать?

Чем глупее выглядят приговоры по подобным делам со всей их серьезностью, тем трусливей кажутся многие наши чиновники.

ЛЮДЗІ ГОНАРУ

## Алена МАСЛЮКОВА: «У школу вяртацца не збіраюся…»

*Былая настаўніца гісторыі, якую ў 2014 годзе звольнілі са светлагорскай сярэдняй школы №10, трапіла ў спіс намінантаў штогадовай прэміі «Чэмпіёны грамадзянскай супольнасці».*

Гэтай прэміяй адзначаюцца найбольш значныя, выбітныя і яскравыя асобы, арганізацыі і падзеі, знакавыя для развіцця беларускага трэцяга сектара. *Прэмія заснавана Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі ў 2009 годзе.* Па традыцыі, пераможцы вызначаюцца ў некалькі розных намінацыях.

Сёлета ў намінацыю «Лідар/лідарка года» разам з Аленай Маслюковай трапілі **Ірына Альхоўка** – старшыня праўлення МОО «Гендерные перспективы», якая прасоўвала праект закона аб супрацьдзеянні хатняму гвалту, **Павел Белавус** – заснавальнік Арт-Сядзібы, адзін з арганізатараў святкавання 100-годдзя БНР каля Вялікага тэатра оперы і балета, **Вольга Вялічка** – дырэктар Гродзенскага дзіцячага хоспіса, якая арганізавала сацыяльны праект стварэння зручнай вопраткі для людзей з інваліднасцю, выставу «Жыццё ў поўным колеры» і **Генадзь Фядыніч** – старшыня Незалежнага прафсаюза РЭП, які нягледзячы на пераслед і крымінальную справу, працягвае бараніць правы працоўных.

**Алена Маслюкова** ў спісе намінантаў прадстаўлена як лідар ініцыятывы супраць запуску ў Светлагорску завода па вытворчасці беленай цэлюлозы, які пабудавалі кітайцы. «Народная Воля» ўжо расказвала пра гэта супрацьстаянне жыхароў горада і мясцовай улады.



Алена Маслюкова разам з паплечнікамі падала сёлета 11 (!) заявак у райвыканкам на правядзенне мітынгаў і пікетаў супраць працы шкоднага і небяспечнага прадпрыемства (ніводная заяўка не была задаволена), накіравалі калектыўны зварот у Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. У верасні Алена была аштрафавана на 25 базавых велічынь за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве – флэшмобе супраць шкодных выкідаў завода. Урэшце Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прызнала, што смярдзючыя газы, якія ўтвараюцца на вытворчасці, увогуле не павінны трапляць у паветра. Прызначана паўторная экалагічная экспертыза. 18 снежня стала вядома, што з рэспубліканскага бюджэту выдзелена 350 тысяч рублёў на закупку сучаснага абсталявання для вымярэння забруджвання паветра ад працы Светлагорскага завода па вытворчасці беленай цэлюлозы. *«Зараз завод на поўную моц не працуе, знаходзіцца ў стадыі пробнага пуску»*, – кажа яшчэ адзін светлагорскі актывіст, прадпрымальнік **Анатолій Змітровіч**.

Алена Маслюкова пра навіну, што яна сярод прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі грамадзянскай супольнасці, даведалася, знаходзячыся ва ўкраінскіх Чаркасах.

*– Знаёмімся з працай і грамадскімі ініцыятывамі ва Украіне,* – расказвае Алена. *– Цікавы і карысны досвед для беларусаў. Файны прыклад, як можна рэфармаваць краіну праз грамадзянскую актыўнасць. А што тычыцца прэміі, то навіна для мяне нечаканая, але прыемная. Я заўсёды мела сваё меркаванне і вучыла сваіх вучняў адстойваць свае правы і інтарэсы, каб была карысць для ўсіх…*

На пытанне, ці сумуе Алена без працы ў школе, яна адказвае катэгарычна:

*– Вяртацца ў школу не збіраюся. Тое, чым займаюся зараз, прыносіць мне задавальненне. Я вельмі ўдзячная ўсім, хто дапамагаў і верыў у нашу ініцыятыву, у вынік нашай працы. Без супольнай працы нашай ініцыятыўнай групы ніякага выніку не было б. Кожны ўносіў у агульную справу часцінку сябе, сваёй волі і розуму. Разам мы неператожныя, разам мы моц!*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

## Віктар МАРГЕЛАЎ: «Не ўсё так бязвоблачна…»

*Сустаршыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва расказаў «Народнай Волі», ці ёсць эфект ад дэкрэта «Аб развіцці прадпрымальніцтва», які быў прыняты каля года таму.*



Нагадаем, дакумент быў падпісаны напрыканцы мінулага года. Дэкрэт павінен палепшыць бізнес-клімат у краіне і прадугледжвае «кардынальныя змены механізмаў узаемадзеяння дзяржаўных органаў і бізнесу». Ці лягчэй стала жыць малому бізнесу ў гэтым годзе?

– Ёсць паказчыкі колькаснага і якаснага развіцця, – кажа **Віктар Маргелаў**. – Калі казаць пра колькасныя, то некаторыя адзначаюць станоўчую дынаміку. У прыватнасці, Міністэрства эканомікі дэкларуе, што ў гэтым годзе створана больш за 7 тысяч малых прадпрыемстваў. Для параўнання – да прыняцця дэкрэта ў многіх рэгіёнах гэтыя лічбы зніжаліся.

Прагучала таксама, што ў межах дэкрэта па Указе «Аб развіцці гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання» за гэты год створана каля тысячы гандлёвых аб'ектаў у вёсках. Калі верыць афіцыйным лічбам, то гэта сур'ёзны вынік.

Таксама можна канстатаваць, што знізіліся рызыкі. Менш стала праверак, дзяржаўныя органы ў шэрагу выпадкаў больш лаяльна ставяцца да дробных парушэнняў прадпрымальнікаў, спрасціліся многія працэдуры.

**– Адным словам, ёсць эфект?**

– Безумоўна, ёсць, але ж не ўсё так і бязвоблачна. Напрыклад, доля малога і сярэдняга бізнесу ў агульнай выручцы знізілася. І застаецца шмат пытанняў. Якая павінна быць доля малога бізнесу ў рознічным гандлі? Які павінен быць баланс інтарэсаў паміж буйнымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі і астатнімі ўдзельнікамі рынку? Зараз мы павінны перш за ўсё збалансаваць сваю эканоміку, таму адказваць на гэтыя пытанні проста неабходна.

Адным словам, я не сказаў бы, што з прыняццем дэкрэта адбылося нешта рэвалюцыйнае. Зрухі назіраем, але вялікіх лічбаў росту няма. Мы не павялічылі сур'ёзна заробкі ў галіне малога бізнесу і прыбытковасць большасці відаў бізнесу. Няма пакуль указа аб ліцэнзаванні, які аблегчыў бы некаторыя віды дзейнасці. Будзем спадзявацца, што наступны год будзе больш багаты на пазітыўныя змены для бізнесу.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

НУ І НУ!

## «Падарунак» ад банкамата

*Жанчына здымала 100 рублёў, а атрымала 1 капейку.*

Жыхарка Кобрына спрабавала зняць у банкамаце «Беларусбанка» са сваёй карткі 100 рублёў, але апарат выдаў ёй недэнамінаваныя купюры па 20 рублёў», якія даўно выйшлі з абарачэння. У выніку атрымалася 1 капейка на «новыя» грошы.

Як паведамляе tut.by, жанчына стала не адзінай кліенткай, якой апарат выдаў старыя купюры.

Пазней высветлілася, што арганізацыя, якая абслугоўвае банкаматы, выкарыстоўвае купюры ўзору 2000 года для рэгламентных работ і закладвае іх у тэставыя касеты. Адбыўся збой у працы апарата, таму кліенты памылкова атрымалі недэнамінаваныя грошы.

Сваю памылку банк затым выправіў, неабходную суму жанчыне вярнулі.

ТЕМА ДНЯ

# Тормоз белорусской экономики хотят сделать драйвером

*Директивное управление госпредприятиями завело их в тупик, экономические власти пытаются найти выход из него.*

Одной из системных проблем белорусской экономики являются отстающие госпредприятия. Такие организации неэффективно поглощают ресурсы и угрожают устойчивому развитию экономики. Власти пытаются найти ответ на вопрос, что с ними делать.

### Госсектор в цифрах

У белорусской экономики по-прежнему ярко выраженное государственное лицо. Госсектор вносит определяющий вклад в экономику. В первой половине этого года предприятия с госкапиталом обеспечили более 75% совокупного объема промышленного производства и сформировали более 60% выручки, которую получили коммерческие организации.

В то же время госсектор генерирует львиную долю проблем, которые возникают в белорусской экономике. По итогам первого полугодия более 75% просроченной кредиторской и дебиторской задолженности приходилось на госсектор. Более 85% просроченной совокупной задолженности по кредитам и займам также за сектором предприятий с госкапиталом.

Все это указывает на то, что финансовое положение госкомпаний в ряде случаев достаточно сложное и в таком состоянии они вряд ли могут выступать драйвером экономики, который позволит ускорить темпы ее роста.

Напомним, в 2025 году власти хотят увеличить ВВП до 100 млрд долларов (в 2017-м этот показатель был почти вдвое меньше – 54,4 млрд долларов).

### Последствия директивного управления

Системные проблемы экономического развития недавно обсуждались на «круглом столе» в Научно-исследовательском экономическом институте (НИЭИ) Министерства экономики. Стенограмма докладов и выступлений, которые прозвучали там, опубликована в последнем номере «Экономического бюллетеня», издаваемого институтом Минэкономики.

Директор НИЭИ Минэкономики Виктор Пинигин обратил внимание на то, что директивные задания, которые спускаются сверху госпредприятиям, в ряде случаев не учитывают ни возможностей субъектов хозяйствования, ни состояния рынка.

*«В результате производится продукция, не востребованная рынком, технологическая модернизация осуществляется не в соответствии с рыночными трендами, неадекватно растет зарплата, увеличиваются запасы готовой продукции на складах, недостает денежных источников в составе оборотных средств, растет кредиторская и дебиторская задолженность»*, – отметил в своем докладе Виктор Пинигин.

При этом кандидат экономических наук констатировал, что *«органы госуправления, ответственные за спущенные директивные задания, практически не несут никакой ответственности за принятые решения»*.

По мнению директора института Минэкономики, следует отказаться от практики управления госпредприятиями с помощью директивных показателей, а для этого необходимо перейти от директивного к индикативному планированию в экономике.

Кроме этого, считает Пинигин, на уровне госорганов нужно разделить функции собственника и регулятора госпредприятий.

*«Фактически сегодня в системе управления госпредприятиями существует противоречие, конфликт интересов, когда, с одной стороны, отраслевые министерства стремятся любым путем к повышению эффективности работы подведомственных предприятий по показателям, доведенным до них, а с другой – заинтересованы в создании условий, позволяющих этим предприятиям уходить от материально-финансовой ответственности за низкую эффективность их работы»*, – констатировал Виктор Пинигин.

Другие экономисты, которые работают в государственных исследовательских организациях, разделяют мнение о том, что необходимо менять систему управления госсектором.

В частности, заведующий отделом макроэкономической и финансовой политики Института экономики НАН Беларуси Александр Лученок считает, что нужно сделать государственные коммерческие предприятия независимыми в операционно-хозяйственной деятельности от органов государственного управления.

Кроме этого, он считает, что следует запретить создание холдингов с целью сокрытия убытков неэффективных предприятий за счет их объединения с успешно работающими госорганизациями.

В случае устойчивой убыточности государственного предприятия и отсутствия перспектив эффективной модернизации следует принимать меры по его санации и банкротству «не на словах, а на деле», убежден Лученок.

*«Целесообразно один раз выплатить увольняемым работникам большое выходное пособие, чем постоянно выделять крупные суммы на поддержание бесперспективного предприятия. Размер выходного пособия должен быть достаточным для переучивания увольняемого работника на востребованную специальность или для переезда в другую местность (в том числе в сельские районы), где есть нужда в рабочей силе»*, – полагает доктор экономических наук.

Бывший декан экономического факультета БГУ Михаил Ковалев в свою очередь считает, что повысить эффективность госсектора может фондовый рынок.

*«Непременное условие эффективной работы госпредприятий – котировка акций на фондовом рынке страны. Поэтому следует приступить к проведению IPO, по крайней мере миноритарных пакетов акций государственных акционерных обществ. Биржевые котировки обеспечат публичность госкомпаний и большую прозрачность их работы, а в конечном итоге увеличат стоимость госактивов»*, – убежден Ковалев.

### «Лузеры» разоряют казну

Все предложения, озвученные на «круглом столе», были услышаны представителями Министерства экономики, которое, как сказал недавно премьер-министр Сергей Румас, является экономическим ядром правительства.

Повлияют ли предложения экспертов на систему управления госсектором? Начнут ли банкротить неэффективные госпредприятия, а миноритарные пакеты акций прибыльных госкомпаний выставлять на продажу?

В предыдущие годы никаких серьезных реформ на уровне сектора госпредприятий не проводилось. Эксперты отмечают, что до сих не сделан даже первый шаг, который позволил бы точнее понять корень проблем каждого госпредприятия.

*«Госсектор неоднороден, он включает как успешные компании, так и неэффективные, поэтому огульные решения в данном случае недопустимы. МВФ давно рекомендовал провести диагностику госсектора, и это нужно сделать, чтобы понимать истинные причины проблем каждого госпредприятия»*, – подчеркнул в комментарии для БелаПАН заместитель председателя Белорусской научно-промышленной ассоциации Георгий Гриц.

По его мнению, без такой диагностики понять, как проводить реформы в госсекторе, не удастся.

*«Нужно понять, почему некоторые госпредприятия «лузеры». Причины могут быть разные: выпуск невостребованной продукции, высокая закредитованость, ошибки в процессе модернизации, наличие непрофильных активов»*, – отмечает Гриц.

Кстати, избавить госсектор от непрофильных активов, считает эксперт, можно путем их передачи предпринимателям. *«Нужно поддерживать в стране социальное предпринимательство и предоставлять тем, кто им будет заниматься, налоговые льготы»*, – полагает Георгий Гриц.

Вместе с тем пока белорусские экономисты не видят никаких знаковых шагов со стороны государства по запуску реформ в госсекторе.

*«Пока не видно сигналов в пользу того, что государство реформирует хотя бы систему управления госсектором»*, – отметил научный сотрудник Белорусского экономического исследовательско-образовательного центра (BEROC) Олег Мазоль.

По его мнению, если этот процесс оттягивать, то неэффективные госпредприятия будет тормозить развитие всей экономики и забирать значительную часть ресурсов из бюджета. По данным Комитета госконтроля, в 2017 году на поддержку 2210 предприятий было потрачено из консолидированного бюджета 4,4 млрд рублей.

*«Путь постоянной поддержки неэффективных госпредприятий чреват тем, что у государства не будет достаточных средств для финансирования проектов в сфере образования, здравоохранения, инфраструктуры, которые закладывают основу для долгосрочного экономического роста»*, – резюмировал Олег Мазоль.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

*(Naviny.by.)*

НА КОНЧЫКУ ПЯРА

# Надзённае

* * *

Гэта слова заўсёды ў цане:
Кароткае, ёмкае – «не».

Без яго апынешся рабом,
І нахабы зоймуць твой дом.

Будзеш ціха пад лаўкай ляжаць,
Успамінаючы бацьку і «мацьʼ».

Чуцьмеш: кошка на сэрцы скрабе.
І адолее сорам цябе.

Дзе там стрэльба вісіць на сцяне?!
Не бывае свабоды без «не»!

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

БЕЗ РЭТУШЫ

# Але ж зрухі ёсць…

Добрага здароўя ўсім у рэдакцыі!

Вы мяне прабачце, але калі я пішу па-беларуску, то допускаю шмат памылак. Вось нядаўна паслала Вам ліст, а потым спахапілася, што ў слове «расстралялі» дапусціла недакладнасць. А замест «пагаворка» трэба было напісаць «прымаўка» і гэтак далей. Але ж усё роўна зрухі ёсць, і я ўдзячна Вам за тое, што выпраўляеце мае памылкі і вучыце мяне сваёй газетай ізноў пісаць на роднай мове.

Упэўнена ў тым, што мове трэба вучыць. Але не назойліва, не гвалтам. Таму і газета няхай выдаецца не толькі на беларускай, але і на рускай мове.

Я і ў 2019 годзе застаюся Вашым чытачом і падпісчыцай.

Жадаю ўсім добрага здароўя!

**Валянціна ПАЖЫЛОВА.**

*г.Светлагорск.*

ОТКЛИК

# Помнить, чтобы избежать повторения трагедий

Уважаемая редакция!

Выражаем благодарность за публикацию С.Антановича «Ушедшие в бессмертие». Мы и многие наши знакомые заинтересованы в продолжении публикации подобных материалов о судьбах безвинно осужденных и погибших в сталинских лагерях известных государственных деятелей, работников науки, культуры…

Необходимо помнить о тех печальных временах, когда ежегодно обрывались жизни тысяч людей. Помнить, чтобы избежать их повторения.

**В.Н.БЕЛЯКОВА-ГОЛОДЕД, В.Ф.БЕЛЯКОВА – дочь и внучка Н.М.Голодеда.**

ДИСКУССИЯ

# Все-таки от смертной казни Беларусь должна отказаться

Уважаемая редакция! На страницах многих газет и особенно моей любимой «Народной Воли» не первый год идет дискуссия о введении моратория на исполнение смертной казни. Цивилизованная Европа отказалась от применения смертной казни, и только «памяркоўныя» белорусы в своем большинстве поддерживают ее. Вопрос сложный. Здесь правы обе стороны. Знаю, что со мной многие не согласятся, но, признавая плюрализм мнений, хочу высказать и свое суждение по этому поводу.

Безусловно, зло всегда должно быть наказано, но при этом необходимо детально и беспристрастно выяснить обстоятельства, при которых произошло тяжкое преступление. И вина всегда лежит на том, кто первый сделал зло.

*Жизнь человеку дал Бог.* И только он может ее забрать, но, как известно из Библии, Бог покровительствовал древним евреям, и у них, на мой взгляд, был страшный закон: «Око за око, зуб за зуб». Что же получается: убийца нарушил божью заповедь и человеческие законы, лишил жизни многих людей, а его трогать не смей? Это же оскорбление жертв преступления и их родственников. Приговоренные к пожизненному заключению хотя и ограниченно, но видят мир, пользуются какой-то информацией, спят,



едят, их выводят на прогулку, моют в бане, охраняют. И на их содержание идут народные деньги, в том числе и родственников жертв. Находятся на полном государственном обеспечении и не помышляют закончить жизнь самоубийством от такого «строгого режима».

Добиться признания виновности от обвиняемого можно с помощью пыток, которые законом запрещены, но на практике иногда применяются. А под пытками могут быть вынужденные признания и самооговоры. Примеров знаем более чем достаточно. Могут быть судебные ошибки. Но лучше освободить десять виновных, чем казнить одного невиновного. Говорят, что не ошибается тот, кто ничего не делает, но, например, сапер за свою ошибку расплачивается собственной жизнью. Водитель, электрик и все, кто нарушает правила и технику безопасности, гибнут или получают увечья. А вот некоторые следователи, судьи да и врачи за свои ошибки отделываются легким испугом. Я не призываю к самосуду, но если бы за свои ошибки с ними поступали так, как анархисты поступили в кинофильме «Оптимистическая трагедия» с матросом и старушкой, то ошибок было бы гораздо меньше.

Судью все знают в лицо, а вот исполнитель приговора о смертной казни никому не известен, а не надо бояться и стесняться своей профессии. Тут уж, как говорят, кто на что учился. Карательные органы у нас очень «тактичны». Чтобы не травмировать психику родственников, расстрелянных в годы сталинских репрессий, им сообщали, что их осужденный родственник получил десять лет лишения свободы без права переписки. И тогда и теперь дата исполнения смертного приговора и место, где похоронен человек, строго засекречены. А это значит, что не все было гладко и безупречно в правосудии.

Я не могу однозначно ответить на вопрос, гуманно ли общество поступает, сохраняя жизнь маньякам-насильникам и серийным убийцам, но если все страны Европы решили отменить смертную казнь, то стоит присоединиться к этому решению и Беларуси. Надо идти в ногу со всеми, и это будет соответствовать векторной политике нашего государства по отношению к Евросоюзу. В конце концов, все мы христиане, а Сын Божий, находясь на кресте рядом с разбойником, простил его грехи, а мы должны хотя бы отказаться от смертной казни, и в первую очередь по отношению к политическим оппонентам, неизлечимо больным, беременным женщинам.

**Андрей КОЗЕКО.**

*г.Барановичи.*

НОВОГОДНИЕ СТРОКИ

# …Чтобы чиновники проснулись и вспомнили обо мне

Дорогой Дедушка Мороз!

У меня к тебе большая просьба.

Я отдала медицине сорок лет. Была донором – целая папка похвальных грамот, имею медаль «За спасение утопающих». А теперь сама нуждаюсь в помощи.

Я – инвалид по зрению. Дистрофия сетчатки обоих глаз. Уже почти ничего не вижу. Что это такое – словами не передать. Беру картошину – и не вижу, как ее очистить, подхожу к зеркалу – и не вижу своего лица…

Мне по закону положены говорящие часы. В начале сентября я отсвила заявление в отделе соцобеспечения Московского района. Сказали: «Ждите звонка». Через два месяца поехала, сказали: «Комитет не закупил». И вот жду уже четвертый месяц.

Радиоточку у нас давно обрезали. Когда надо в больницу или поликлинику, выхожу на улицу и спрашиваю у прохожих время. Поехала на кладбище и хожу среди могил, ищу живую душу, чтобы узнать время и не опоздать на автобус.

Дедушка Мороз! Прошу тебя, стукни своим волшебным посохом так, чтобы чиновники проснулись и вспомнили обо мне.

**С уважением – Болеслава Ивановна РОСТОВСКАЯ, Минск.**

РЭЗАНАНС

# Талент і баязлівасць – рэчы сумяшчальныя?

Дваякае адчуванне засталося ў мяне пасля прачытання інтэрв'ю са скульптарам К.Касцючэнкам. З аднаго боку, павага да яго высокага таленту як стваральніка часткі кампазіцыі мемарыялу у Трасцянцы, з іншага боку – неўразуменне грамадзянскай пазіцыі. Яго ўхілістыя адказы на прамыя вострыя пытанні карэспандэнткі, яго абцякальныя фразы, напоўненыя штампамі, пакідаюць уражанне нейкай баязлівасці.

Яно зразумела: чалавеку даюць дзяржаўныя заказы, якія прыносяць творчае задавальненне і прыбытак, – губляць гэта не хочацца. Адсюль залішняя асцярожнасць у выказваннях, каб не пакрыўдзіць сваіх заказчыкаў. Адсюль штампаваныя фразы кшталту «Кому-то выгодно коверкать историю», на якія як бы бачыш высокую пячатку «Дазволена!».

Але ж ацэнка кожнай гістарычнай падзеі з цягам часу ўдакладняецца, дапаўняецца новымі, раней невядомымі дэталямі, нюансамі, бывае, што і даволі кардынальна змяняецца (як, напрыклад, з постацію Леніна). І не заўважаць гэтага, заплюшчваць вочы, закрываць вушы і крычаць: «Не коверкайте историю!» – незадзросная роля для публічнага чалавека.

Зараз пра партызанскі рух на Беларусі маецца шмат новай інфармацыі, раней недаступнай, адкрыты раней схаваныя дакументы. Высвятляюцца страшныя факты не толькі пра фашыстаў. І знаходзяцца людзі, якім гэта ўсё муляе. «Не надо коверкать историю!» – заклікаюць яны, абараняючы тым самым сапраўды скажоную, «скаверканую» гісторыю. Следам за імі гэты заклік паўтарае і К.Касцючэнка. І як разумець гэты заклік? Што, не трэба распавядаць, як, здаралася, партызаны расстрэльвалі настаўніц, якія вучылі беларускіх дзетак мове і тым самым «супрацоўнічалі з фашыстамі»? Ці не трэба было галоўнаму рэдактару «Народнай Волі» даваць у друк успаміны І.Копыла «Вайна вачыма падлетка», дзе аўтар распавядаў, што яго, малога хлопчыка, немец частаваў цукеркамі? Зразумела, што пускаць слёзы ў замілаванні тут не трэба, той жа немец потым ішоў расстрэльваць людзей ці паліць вёскі. Але што, успамін хлопчыка пра цукеркі трэба забараніць?

Ці не трэба было ў водгуках на тыя ўспаміны публікаваць гісторыю, як аднаго з партызанаў прымалі ў камсамол, а ён катэгарычна адмаўляўся, і камандзір атрада раз'ятрыўся: «Не напіша заявы – расстраляць!»? Ці гісторыю пра тое, як п'яны партызан застрэліў 16-гадовую дзяўчыну за тое, што не аддалася яму, герою, і застаўся непакараным?

Пытанні, пытанні… Шмат чаго ў ваеннай гісторыі патрабуе свайго даследавання, высвятлення. Але тыя, хто абараняе скажоную гісторыю, баяцца вострых пытанняў і, знаходзячыся пры ўладзе, спрабуюць забараніць іх. Расійскі тэлеканал «Дождь» ледзь не закрылі з-за аднаго такога пытання: «А можа, варта было здаць Ленінград і тады не было б двух мільёнаў памерлых галоднай смерцю?»

Усё гэта, шаноўны спадар Касцючэнка, не скажэнне гісторыі, а аднаўленне праўды, ачышчэнне гісторыі ад наўмысных міфалогій.

Тое ж самае можна было сказаць таленавітаму скульптару і пра постаць Леніна, і пра помнікі яму, і пра Курапаты… Пра Курапаты ён як бы і сказаў, але неяк вяла, не знайшоў рэзкіх рашучых слоў, якіх заслугоўваюць тыя рэстараны.

Шкада, што вялікі талент ужываецца з такой баязлівасцю ў адным чалавеку.

**Міхась БУЛАВАЦКІ, настаўнік.**

*Магілёў.*

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ!

# Не займайцеся рэанімацыяй вырадкаў…

Прачытаў чарговую калонку Міхася Скоблы пад загалоўкам «ФЭ на пастаменце». Яго праўдзівыя, вострыя, дасціпна-пранікнёныя радкі з'явіліся ад прыкрага факта: у дворыку дзяржаўнай гімназіі №6 горада Гродна нядаўна гарадскія і абласныя ўлады адкрылі помнік аднаму з самых крывавых савецкіх катаў, прыручаных ленінска-сталінскім Крамлём, – Дзяржынскаму. Мяне адразу засмуціла гнюсная падзея: помнік сумна вядомай пачвары ўзвялі ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь, у прыгожым абласным цэнтры, дзе насамрэч ёсць каго ўшаноўваць, ёсць каму пакланяцца. І, што найбольш абурае, месца для рэалізацыі сляпой палітыкі абралі каля дзіцячай навучальнай установы. Такое глупства не ўчыняецца больш ні ў адной з постсавецкіх рэспублік, у тым ліку і ў самой Расіі. Падумалася пра тое, што беларуская чыноўніцкі зусім не баяцца ганьбы. Падобным чынам начальства бязглузда праслаўляе Суворава, які, падаўляючы паўстанне Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 годзе, заліў наша Прыбужжа крывёю паўстанцаў. Хоць бы ўжо не займаліся рэанімацыяй вырадка «жалезнага Фелікса»!

Але маё засмучэнне і абурэнне ўрэшце пачало ўраўнаважвацца натуральнай радасцю ад смелага і дасціпнага публіцыстычнага выступлення Міхася Скоблы, сябра нашага Саюза беларускіх пісьменнікаў, і ад усведамлення таго, які ён карысны для незалежнага выдання. Ведаю: многія чытачы, знаёмячыся з чарговым свежым нумарам «Народнай Волі», шукаюць на газетных палосах якраз ягоныя слова. Вось ён напрыканцы сваёй публікацыі, гаворачы пра насланнё, якое ў Гродне пайшло ад імя Дзяржынскага, прыводзіць прыклад вынаходлівага народнага супраціву: у вёсцы Заполле на Случчыне на помніку галоўнаму чэкісту акуратна прыбралі ўсяго дзве кропкі ў надпісе: «Атрымалася – ФЭ Дзяржынскі…»

Цікава, што і ў нашай сталіцы на такім жа помніку кемлівыя людзі гэтак жа ўмела прыбралі непатрэбныя кропкі, што ў свой час натхніла мяне ўключыць у кнішку «Няўжо?..» (2011) кароткі белы верш. Яго я стварыў, калі ўбачыў на галаве Фелікса двух галубоў:

*На адным з помнікаў Менску*
*Выбіта: ФЭ Дзяржынскі,*
*Хоць і так вядома:*
*Дзяржынскі – фэ!..*
*Гэта й два птахі адчулі,*
*Што селі на галаву*
*Справіць патрэбу.*

Назваў я гэты верш, складзены нерыфмаванаю натуральною моваю, проста: «Кемлівыя птахі». Наклад згаданай кніжкі склаў толькі 500 асобнікаў. А калонку Міхася Скоблы, а таксама мой водгук, дзякуючы «Народнай Волі» і аўтару артыкула «ФЭ на пастаменце», могуць прачытаць больш як 23.000 чытачоў.

**Васіль ЖУКОВІЧ, пісьменнік.**

ТАК ДУМАЮ

# Ці ж трэба арыентавацца на манкуртаў?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя газеты «Народная Воля»!

У артыкуле «Каму замінае памяць па БНР?» гаварылася пра супрацьленне сталічных улад наконт усталявання шыльды ў гонар 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Яна выраблена, але да гэтага часу ёй не вызначана вартае месца. Чыноўнікі Мінгарвыканкама адказваюць, што ёсць нейкая колькасць грамадзян, якія да гэтага ставяцца адмоўна. І што самае дзіўнае, называць прозвішчы гэтых людзей не хочуць.

Я лічу: тыя, хто можа і сапраўды негатыўна ставіцца да існавання памяці аб даце абвяшчэння незалежнасці Беларусі, сапраўды ёсць. Але я ніколі не паверу, што гэта адукаваныя і свядомыя беларусы, якія ведаюць гісторыю краіны, якія прагнуць дэмакратыі. Сапраўдныя беларусы могуць толькі ганарыцца тым, што ў далёкім 1918 годзе была абвешчана незалежнасць Беларусі. Ці ж трэба арыентавацца на манкуртаў?

**Надзея ПАПОВА.**

*Мінск.*

КАРЦІНКА З НАТУРЫ

# МУТАНТ

Зімовым ранкам баба Маня і дзед Сымон Кручыкі з Дзем'янкоў наважыліся закалоць парсюка. Справа гэта няпростая, зяняшку не зробіш. Падтарнавалі так, каб Вінцук Злучык, які калоў і разбіраў свіней ва ўсёй ваколіцы, быў вольны, каб яго ніхто не перахапіў. А маглі, бо набліжаліся Каляды і заказчыкаў у дзеда Вінцука было шмат.

Віднела. Малая жвавая Маня нагрэла ў печы два вялікія чыгуны вады, падрыхтавала тазікі ды вёдры для свежаніны і раз-пораз пагладала ў акно, што выходзіла на вуліцу. Чакала Вінцука, а яго ўсё не было.

– Прыйдзе, нідзе не дзенецца, – супакойваў яе невысокі тоўсты Сымон. – Ты лепш, чым у акно нос тыркаць, сабрала б на стол якой закусі ды бутэльку гарэлкі са свайго схрону дастала б.

– Авохці! Цяпер гарэлкі? Як справа будзе зроблена, тады і дастану. Замачыць.

Пакуль яны перамаўляліся, у хату зайшоў высокі і худы, як граблі, Вінцук. Ён дастаў з-за пазухі шпайку, паклаў на табурэтку, скінуў з лысай галавы шапку і пачаў расшпільваць куртку.

– Трэба па чарцы прапусціць, каб парсюк доўга не мучыўся, – сказаў гаспадарам.

– А я пра што? – ажывіўся Сымон. – Нібыта не ведае, нібыта першы раз, – папракнуў жонку.

Маня сабрала на стол, а сама пайшла ўпраўляцца па гаспадарцы. Шнуруючы па маршруце хата–сені–хлеў, усё прыслухоўвалася, калі ж мужчыны ўспомняць пра парсюка і вылезуць з-за стала. Знарок моцна барабаніла вёдрамі,



грукала дзвярыма. Хоць бы дзічкі! Яны ўжо крытыкавалі старшыню калгаса Фелікса Шорку за безгаспадарчасць, крычалі, нібы на прафсаюзным сходзе. А калі перайшлі да міжнароднага становішча, Маня не вытрымала:

– Ну, хопіць! Парсюк неўзабаве загарадку разверне, вядома ж, галодны, а вы тут ажно ў Венесуэлу забраліся. – Яна схапіла бутэльку і панесла з хаты. Заўважыла, што там засталося толькі на дне.

– Мо дабавіла б? – нясмела папрасіў Сымон.

– Зараз дабаўлю чапялой па скабах! Ідзіце справай займацца, а ў Венесуэле і без вас разбяруцца!

Апрануліся, узялі шпайку і пайшлі. Зняўшы з цвіка ў сенях вяроўку, Сымон палез у загародку і завязаў парсюку на заднюю левую нагу. Адчыніў варотцы. Вінцук, растапырыўшы ногі, чакаў у дзвярах, і, як толькі парсюк павалюхаўся на яго, хацеў перахапіць вяроўку і паваліць жывёліну, каб усадзіць у грудзі шпайку. Але вяроўка выслізнула з рук, шпайка падрапала парсюку бок, і той на вялікай хуткасці рвануў з двара, збіўшы беднага Вінцука з ног. Хата была на ўскрайку вёскі, за ёй адразу пачынаўся хмызняк, і ўпуджаны парсюк, згубіўшы з нагі вяроўку, папёр праз алешнік ля стрэла. За ім кінуліся Сымон з Вінцуком, але сілы былі няроўныя. Прабегшы метраў сто, яны засапліся-змарыліся і спынілі пераслед.

– Што будзем рабіць? – са страхам спытаўся Сымон. – Маня з'есць мяне без солі замест гэтага парсюка. Больш як год карміла-даглядала, і тут на табе!

– А я ведаю? – разгубіўся Вінцук. – Я недзе шапку пасеяў, бегшы за твачй скацінай. Як не знайду, то адкупіш.

– Зараз! Толькі мне і клопатаў, што пра тваю шапку! Падымай – вунь валяецца ззаду за табой.

Яны папапталіся, павохкалі і вярнуліся ў двор. Маня стаяла на ганку і, як палкаводзец разбітага войска, грозна пазірала наўкола.

– Дзе ж парсюк?! Куды вы яго дзелі?! – накінулася.

– Мы дзелі? Ды ён сам дзеўся! Як ірвануў з двара, ледзь нас не затаптаў! – са скрухай прамовіў Сымон. – Ледзь ты ўдавой не засталася…

– Можа, яшчэ і застануся, як не вернеце жывёліну ў двор. Апойкі! «Трэба выпіць, каб парсюк доўга не мучыўся…», – перадражніла. – Цяпер рабіце што хочаце, раз упусцілі.

А што яны зробяць? Яшчэ пахадзілі па кустоў, дайшлі да таго месца, дзе яно ўліваецца ў лес, і спынілі пошукі. Вінцук паплёўся дадому, а Маня наладзіла Сымону разбор палётаў. Накрычаўшыся да хрыпаты, яна, каб супакоіць нервы, стала вязаць сабе шкарпэткі. І ўсё думала: мо ў міліцыю заявіць аб прапажы? Мо вяскоўцаў папрасіць, каб дапамаглі шукаць? Ды нічога не прыдумала…

Праз дзень, вышаўшы да аўталаўкі, кабета пачула, што Віцька Рысік з суседніх Калабродцаў учора ўпаляваў у лесе дзіка.

– Вялікі такі дзік, тоўсты, – расказваў Міхась Туленскі. – Кіль за сто пяцьдзясят будзе. Я сам не бачыў, але швагер расказваў. Яны побач жывуць. Кажа, дзіўны нейкі дзік. Усе рудыя, з палосамі, а гэты белы. Бачыш, як свет перамяніўся, ужо дзікі сталі белыя…

– А дзе ён падзеў таго дзіка? – ажно зачырванелася ад здагадкі Маня.

– Дзе-дзе… Разабраў ды з'есць са сваёй бабай. Пашанцавала чалавеку…

Маня подбегам кінулася дадому, і яны з Сымонам адразу пайшлі ў Калабродцы да Рысіка.

– Ніякага ты дзіка не ўпаляваў, а застрэліў нашага парсюка! Ён уцёк з двара, калі гэтыя разявы Сымон з Вінцуком хацелі яго закалоць, – перастуліўшы парог, загаварыла Маня. – Сам жа бачыў, што жывёліна не падобна да дзіка…

– Праўда, не падобна. Я пачуў, што кусты трашчаць, кабан рохкае. Ну і стрэліў. Толькі потым убачыў, што кабан нейкі незвычайны. Думаў, мутант.

– Сам ты мутант! Аддавай нашу свінню!

– Ды бярыце! Навошта мне чужое?

Праз якую гадзіну, спакаваўшы ў багажнік сваёй машыны мяса і сала, Віцька павёз усё Кручыкам. На заднім сядзенні прымастакаваліся задаволеныя гаспадары і пацікуралі, як аддзячыць добраму чалавеку.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлава.*

ПРЫВАТНАЕ ЖЫЦЦЁ

## Мацвей + Арына = каханне?

*Першая ракетка Беларусі Арына Сабаленка апублікавала новыя рамантычныя фатаграфіі з беларускім хакеістам Мацвеем Бажко.*



Варта заўважыць, што Арына Сабаленка ўжо не першы раз публікуе фотаздымкі з Мацвеем Бажко. Але ні Мацвей, ні яна публічна не каментуюць свае адносіны.

Мацвей Бажко таксама днямі выклаў свае новыя фотаздымкі ў сацыяльныя сеткі, але без сяброўкі. На пытанне аднаго з сябраў, ці не рыхтуецца Мацвей на шоу халасцякоў, Бажко адказаў даволі пераканаўча: «Баюся, мяне туды ўжо не возьмуць…»

Дарэчы, хакеіст Мацвей Бажко адметны сваімі габарытамі: паводле дадзеных Eliteprospects, ягоны рост – 200 сантыметраў, вага – 106 кілаграмаў.

**Вера ВІР.**

АСОБА

# Аляксандр Глеб: на ростанях

*Знакаміты беларускі футбаліст стаў свабодным агентам і не ведае, як будзе складвацца яго далейшы лёс.*

На гэтым тыдні паўабаронца БАТЭ і зборнай Беларусі **Аляксандр Глеб** расказаў, што ў яго закончыўся кантракт з барысаўскім клубам.

*«Што будзе далей, я не ведаю,* – шчыра прызнаўся ён sport24.ru. – *Адпачываю і рыхтуюся да Новага года. Ці працягну я кар'еру наогул? Паглядзім. Трэба крыху адпачыць, супакоіцца і ўзважана прыняць рашэнне. Магчыма, буду разглядаць варыянты ў Кітаі альбо іншыя экзатычныя прапановы. Ёсць жаданне пайсці на трэнерскія курсы».*




Трэба адзначыць, што Аляксандр Глеб – адзін з лепшых футбалістаў у гісторыі беларускага футбола. Выступленне за нямецкі «Штутгарт» і лонданскі «Арсенал» – вяршыня яго кар'еры, хаця пасля пераходу ў іспанскую «Барселону» ўсё пайшло крыху не так, як хацелася б іграку.

Сам Глеб неаднойчы прызнаваўся, што той пераход быў вялікай памылкай, бо патрапіць у зорны склад «Барсы» аказалася неверагодна складана. Але і не кожны футбаліст утрымаецца перад спакусай, калі яго запрашае такі славуты клуб.

У мінулым годзе Аляксандр Глеб вельмі хацеў патрапіць у БАТЭ, які на групавым этапе Лігі Еўропы гуляў з лонданскім «Арсеналам». Матч з англійскай камандай мог бы стаць цудоўнай падставай, каб прыгожа развітацца з футболам і, як кажуць, павесіць буцы на цвік. Праўда, на той момант барысаўскі клуб адмовіўся ад яго паслуг, хаця пазней і падпісаў з футбалістам кантракт.

21 лістапада гэтага года, калі БАТЭ сустракаўся з салігорскім «Шахцёрам», Глеб правёў 710-ы матч на вышэйшым узроўні і выйшаў у лідары клуба Сяргея Алейнікава. Рэкорд!

А ці будзе ён працягваць кар'еру? Хутчэй за ўсё, пакуль на «грамадзянку» Аляксандр Глеб не збіраецца. Ва ўсялякім выпадку галоўны трэнер зборнай Беларусі **Ігар Крывушэнка** разлічвае, што вопытны футбаліст дапаможа нацыянальнай камандзе ў матчах плэй-оф Лігі нацый.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДАРЭЧЫ

*Як вядома, у паўфінале дывізіёна «D» Лігі нацый сапернікам беларускай футбольнай зборнай будзе каманда Грузіі. Гульня адбудзецца напрыканцы сакавіка 2020 года ў Тбілісі. Калі беларусы пройдуць гэты этап, то ў фінале згуляюць з пераможцам пары Македонія–Косава.*

*У выпадку выхаду ў фінальную частку чэмпіянату Еўропы-2020 Беларусь атрымае ад УЕФА як мінімум 9,25 мільёна еўра. Такая сума прапісана ў якасці прызавых для кожнага з 24 удзельнікаў турніру, інфармуе «Чэмпіянат» са спасылкай на афіцыйны сайт УЕФА.*

*Агульная сума прызавых за ўдзел у фінале чэмпіянату Еўропы-2020 года складзе 371 млн еўра. Яна вырасла на 23 працэнты. На папярэднім турніры, фінальная частка якога прайшла ў Францыі ў 2016 годзе, сума складала 301 млн еўра.*

*Падчас групавога этапу каманды будуць дадаткова атрымліваць за перамогу па 1,5 млн еўра, за нічыю – 750 тысяч.*

*За выхад у 1/8 фіналу турніру зборныя атрымаюць па 2 мільёны еўра, у 1/4 фіналу – па 3,25 млн, за выхад у паўфінал – па 5 мільёнаў. Пераможца турніру атрымае 10 мільёнаў, фіналіст – 7 мільёнаў еўра.*

*Такім чынам, калі Аляксандр Глеб дасць згоду дапамагчы беларускай зборнай, то можа не толькі працягнуць сваё футбольнае даўгалецце, але і крыху дадаткова зарабіць.*

ЖАНЧЫНА-ЛЕГЕНДА

# Траўніца Эліза

*Здаецца, што можа быць больш далікатным і недаўгачасным, чым кветкі?! Аднак фларыстычным кампазіцыям, якія ўпрыгожваюць сцены самай старадаўняй аптэкі-музея Беларусі, што ў Гродне, больш за 100 гадоў. І хоць яны нашмат перажылі сваю стваральніцу, але да гэтага часу захоўваюць дотык яе рук і памяць пра «каралеву жывога слова» – Элізу Ажэшку.*

Мала хто з сучаснікаў ведае, што вядомая наша пісьменніца акрамя літаратурнага дару валодала яшчэ талентам вучонага-батаніка. Яна глыбока цікавілася лекавымі травамі, прафесійна збірала гербарыі, запісвала ў алфавітнік народныя назвы раслін, стварала альбомы з кветкамі.

Эліза нарадзілася ў 1841 годзе ў сядзібе Мількаўшчына (непадалёку ад Гродна), у старым памешчыцкім доме, які з трох бакоў быў акружаны садам з прыгожымі кветнікамі, дэкаратыўным кустоўем і дрэвамі розных відаў (пазней садоўнік Франк будзе расказваць ёй тут беларускія казкі). Кажуць, што, калі дзяўчынка з'явілася на свет, той майскай ноччу неверагодна прыгожа спяваў салавей, быццам бы сама прырода абвяшчала пра з'яўленне адмысловай асобы. Ёсць такое меркаванне: таленавіты чалавек таленавіты ва ўсім. Эліза вучылася музыцы, жывапісу, з лёгкасцю засвойвала замежныя мовы, гісторыю, матэматыку, захаплялася літаратурай, філасофіяй, прыродазнаўствам і грамадскімі навукамі, цікавілася хіміяй, латынню, батанікай, псіхалогіяй, побытам людзей самых розных саслоўяў.



Пасля паўстання 1863 года мужа Элізы Ажэшкі выслалі ў Пермскі край, а яна прадала свой маёнтак у Мількаўшчыне і перасялілася ў Гродна, дзе пражыла да канца сваіх дзён. Пісьменніца даследавала народны светапогляд, нацыянальны характар і культуру беларусаў, вывучала фальклор і этнаграфію. Яна шмат падарожнічала па Гродзеншчыне, распытвала траўніц і знахарак, збірала народныя назвы раслін, карпатліва апісвала іх знешні выгляд, спосабы прымянення.

*«Зімовымі начамі і вечарамі ў думках я вандравала па тых лясах і лугах, дзе калісьці вясной, летам і восенню займалася батанічнымі назіраннямі. Я назірала за нараджэннем і жыццём раслін, чытала пра іх у вучоных кніжках, збірала гербарыі, а потым пісала пра іх у сваіх аповесцях і навелах».*

Так нарадзіўся літаратурна-энцыклапедычны зборнік «Людзі і кветкі над Нёманам», які ўключаў запісы твораў вуснай народнай творчасці (песні, балады, прымаўкі, загадкі, казкі, паданні, легенды), а таксама складнік беларускіх назваў каля 400 траў.

*«Канешне, усё прыведзенае вышэй – толькі нязначная частка батанічных назваў і ведаў беларускага народа з-пад Нёмана. Цяжкасць і запаволенасць, з якімі гэтыя веды прыадкрываюцца перад намі, прыводзяць мяне да думкі, што спатрэбіцца шмат часу і нястомнай цярплівасці, каб спазнаць іх цалкам. У маім кветніку расце таксама шмат раслін, назваў якіх я не згадала, таму што патрабуе яшчэ пацвярджэння правільнасць гэтых назваў і звязаных з імі тлумачэнняў».*



**Стары дом Элізы Ажэшкі не захаваўся, але новы – дакладная яго копія. У ім нават адчуваецца атмасфера, створаная некалі пісьменніцай.**

Гэты твор і цяпер вельмі цікава гартаць і разам з Элізай захоплена падарожнічаць па лугах, палях і лясах каларытнай на прыроду Гродзеншчыны. І кожнаму новаму пакаленню праз талент пісьменніцы адкрываюцца нязведаныя бакі радзімы.

Кнігу можна знайсці ў кнігарнях Беларусі і Польшчы, прачытаць у электронных бібліятэках, а калі пашанцуе, то нават набыць у аптэцы-музеі.

Большая частка гербарыяў Элізы Ажэшкі захоўваецца ў Польшчы, у Вроцлаве. Але акрамя прафесійнага гербарыя таленавітая Эліза складала і фларыстычныя кампазіцыі. Карпатліва, тонка, далікатна, эстэтычна, з густам.

У доме, дзе Ажэшка жыла з 1894 года, быў невялічкі гарадскі сад з кветкамі, у якім яна любіла бавіць час. Зараз гэтая вуліца носіць яе імя, а калісьці рамантычна называлася Раскоша. Стары дом не захаваўся, але новы – дакладная яго копія. У ім нават адчуваецца атмасфера, створаная некалі пісьменніцай. Быццам наяве бачыцца, як праз драўляную веранду Эліза ідзе ў сад за кветкамі і беражліва нясе іх у дом, каб потым ствараць з іх далікатную прыгажосць у фларыстыцы. Яна падоўгу сядзела ля каміна і «малявала» кветкамі і раслінамі свае карціны. А потым з радасцю дарыла іх сябрам, каб тыя ўпрыгожвалі свае кватэры.

Дзякуючы даўнім фотаздымкам, у доме-музеі аднавілі абстаноўку працоўнага кабінета пісьменніцы і выгляд малога салона. Сёння тут, па адрасе вул. Элізы Ажэшкі, 17, можна ўбачыць арыгіналы карцін, кніг, рэпрадукцый і, вядома, кампазіцый з кветак. Тры лісты з фларыстычнага альбома ўпрыгожваюць сцены пакояў. Яшчэ пяць лістоў дэманструюцца ў аптэцы-музеі (пл.Савецкая, 4), астатнія захоўваюцца ў запасніках.

Дзіўна, але хоць і прайшло столькі гадоў, а расліны і кветкі, з любоўю сабраныя і аформленыя Элізай, захавалі свой прыродны колер, знешні выгляд і форму.

У 1885-м у Гродне здарылася вялікая бяда: горад ахапіў пажар, згарэла шмат дамоў. Ажэшка адразу ж стала адной з кіраўніц камітэта дапамогі пагарэльцам. З самага ранку да глыбокай ночы яна абыходзіла пацярпелых людзей, запісваючы, у чым тыя маюць патрэбу. Пісьменніца прадавала свае гербарыі і фларыстычныя кампазіцыі, каб сабраць грошы на дабрачыннасць: купіць ежу, адзенне, лекі.

Яна шмат дапамагала бедным і абяздоленым, і гродзенцы таксама шчыра любілі яе. Дом, у якім жыла пісьменніца, стаяў раней блізка да дарогі. Эліза доўга хварэла і цяжка сыходзіла з жыцця. Каб шум менш турбаваў хворую жанчыну, гараджане па ўласнай ініцыятыве высцілалі праезную частку вуліцы перад домам Ажэшкі саломай. А калі яе сэрца перастала біцца, тысячы людзей прыйшлі развітацца з Элізай і выказаць ёй сваю падзяку. Пісьменніца спачывае на старых каталіцкіх могілках, практычна ў самым цэнтры Гродна, на яе магіле амаль заўсёды ёсць кветкі.

**Наташа ХАМУТОЎСКАЯ.**
**Фота аўтара, czytelniczy.pl; aptekapodzlotymlwem.com.pl.**

«Алеся.»



*«…Веданне народам расліннага свету настолькі дакладнае, што смела можна сцвярджаць: ад самага высокага дрэва да найдрабнейшай травінкі, якія растуць на той самай зямлі, што і мы, няма такой расліны, якая ў народнай мове не мела б назвы, а ў саміх назвах выяўляецца дакладная назіральнасць, выказаная вобразна і паэтычна… Вось вязанка назваў, што выяўляюць характэрныя ўласцівасці раслін.*

**Скрыпіца** *(Silene inflata, на Мазоўшы – skrzypek)*. Ніклая фіялетавая кветка, якая, калі сціснеш яе ў пальцах, злёгку паскрыпвае.

**Шалястуха** *(Thlaspi arvense)*. Калі выспявае насенне гэтай травы, торбачкі, у якіх яно знаходзіцца, набываюць залацісты колер і пры самым маленькім дотыку вельмі мілагучна шалясцяць.

**Рагуля** (*Delphinium consolida*). У Лідскім павеце называюць рагулькай. Фіялетавая кветка, якая расце ў збажыне. Лісцікі прадаўгаватыя, падобныя на рогі.

**Валачай**, альбо **коткі**, альбо яшчэ **каташкі** (*Trifolium arvense*). Від канюшыны; бухматая шэрая кветачка, якая сваім колерам і мяккасцю нагадвае кацiную поўсць.

**Галубейнік** (*Anchusa arvensis*). Трэба шмат назіральнасці, каб назваць гэтую расліну паводле колеру кветак, бо нават там, дзе яна шырока разрастаецца, што здараецца вельмі рэдка, толькі зблізку заўважны пяшчотны блакіт яе кветачак, такіх дробненькіх, што можна параўнаць іх з вушкам іголкі, да таго ж яшчэ і схаваных у чашачках з лісця.

**Чарнобуль** (*Artiemiesia vulgaris*). Ад такога вялікага болю, што «ажно чорна робіцца ў вачах».

**Загартушка** (*Drosera rotundifolia*). Ужываюць для мілосных чараў. Згатаваны і выпіты настой з яе карэння мае ўласцівасць прыцягваць каханую асобу. Паводле сцвярджэння вясковай лекаркі, гэты сродак раяць толькі тыя з жанчын, што вядзьмараць, а тыя, што не вядзьмараць, але сапраўды лечаць і хочуць рабіць толькі дабро людзям, а дрэннае не хочуць, не раяць яго нікому.

**Шчасце** (*Erigeron acre*). Дзяўчаты падчас жніва затыкаюць яго за пояс, каб прыносіў ім спор і хуткасць у працы. У засцянковай шляхты таксама называецца «шчасце», але ўжываецца інакш. Калі расцвіце ўплеценае ў дзявочыя валасы, то каханне будзе ўзаемнае…»

КРЫЖАВАНКА

## «Танга – гэта настальгія»

*Прысвячаецца аматарам танцаў*



**Па гарызанталі:** 3.У балеце скачок уверх, падчас якога ногі некалькі разоў скрыжоўваюцца, кранаючыся адна адной. 8. … Гардэль – імя выдатнага аргенцінскага спевака і акцёра, «караля танга»; Міжнародны дзень танга адзначаецца ў дзень яго нараджэння – 11 снежня. 9.Раённая газета (разм.). 10.«…, цымбалкі, цымбалікі звонкія !//Жывая душа беларускай зямлі» – з верша Н.Гілевіча «Беларускія цымбалы». 13.Праграма нейкага дзеяння. 14.«Пах страсці// Скандал і … ,//Мы з табою танцуем танга» – з песні А.Стоцкай «Танга». 15.Жаргон. 18.Шчыпковы музычны інструмент. 19.Танцаваць – не … араць (прык.). 21.Сістэма блокаў для падымання грузаў на судне. 22.Майстар сваёй справы. 24.«Танга – гэта рытм, нерв, …, характар» (Х.Д'Арыенса). 25.Духавы медны музычны інструмент. 27.Ласкавы зварот да каго-небудзь (устар., разм.). 31.«Танга – гэта настальгія, …» (А.Пасенса). 33.Танец – …, песня – радасць (балкарская прык.). 34.«І вось … цалуе ціха струны» – з верша Г.Бураўкіна «Скрыпка». 35.Невялічкая хата.

**Па вертыкалі:** 1.«Аб чымсь светлым, аб чымсь новым// Твая … грае нам» – з верша Я.Купалы «Аўтарцы «Скрыпкі беларускай». 2.Лясны жаваранак. 3.Доўгія асцюкі на каласках жыта, пшаніцы. 4.Каштоўны камень чырвонага колеру. 5.Партыя для аднаго голасу ў оперы, аперэце. 6.Танец у таго лепей, каму … падыгрывае (англійская прык.). 7.«Танга – гэта зарыфмаваная … « (Э.Дэльфіна). 11.Італьянскі парны танец у хуткім тэмпе. 12.Краіна ў Паўднёвай Амерыцы, радзіма танга. 16.«А во і сам Юпітар з Вестай,//Пусціўся, стары хрэн, у пляс,//Як бы … перад нявестай» – з паэмы «Тарас на Парнасе». 17.Шлюз у млыне для прапускання вады. 20.Поўны жыццёвы дастатак. 23.«Полька, …-трасуха,//Не чужая – нашая!» – з песні «Полька беларуская» (сл. Л.Дранько-Майсюка, муз. І.Лучанка). 26.«Пад цымбалы, пад цымбалы//Тут Лявоніха скакала!//А цяпер пад тыя гукі//Скачуць праўнукі і …» – з верша А.Пісьмянкова «Без цымбалаў немагчыма». 28.«Добры … – гэта сонечны свет у доме» (У.Тэкерэй). 29.Драматычны твор. 30.Беларускае мужчынскае імя. 32.«Бацька грае, … басуе,//Дачка замуж галасуе.//Бацька жыта прадае,//Дачку замуж аддае» (прыпеўка).

### Адказы на крыжаванку

***Па гарызанталі:*** *3.Антраша. 8.Карлас. 9.Раёнка. 10.Цымбалы. 13.План. 14.Манга. 15.Арго. 18.Арфа. 19.Поле. 21.Талі. 22.Спец. 24.Сіла. 25.Труба. 27.Анёл. 31.Мінулае. 33.Шчасце. 34.Смычок. 35.Хацінка.*

***Па вертыкалі:*** *1.Скрыпка. 2.Юла. 3.Асцё. 4.Рубін. 5.Арыя. 6.Лёс. 7.Размова. 11.Тарантэла. 12.Аргенціна. 16.Жаніх. 17.Спуск. 20.Раскоша. 23.Полечка. 26.Унукі. 28.Смех. 29.П'еса. 30.Ясь. 32.Сын.*

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

**г.Дзяржынск.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.

Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.

nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:

63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



9 772071 964000 18102

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 25.12.2018 у 15.45. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 010 экз. Заказ № 4558.